Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 4 Нядзеля, 15 Красавіка 1928 г. м. Вільня



# ГРАМАДЗЯНІН

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Падпісная цана на 1 месяц 50 грашэй, на 2 месяцы 1 злоты. Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 4, Тэлеф. 14-35.

АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ

## *Хрыстос Уваскрос!*

*Хрыстос Уваскрос! Гэй, браце мой!*
*Дай мы, зрабіўшы „крэс" благому,*
*К жыцьцю культурнаму людзкому*
*Уваскрэсьнем целам і душой.*
*Хай згіне ўся нячыста сіла,*
*Якая гэтак доўгі час*
*Бядой ды цемрай нас марыла.*
*Німа ей мейсца сярод нас!*
*Хрыстос Уваскрос! Няхай-жа з Ім*
*І Праўда на зямле ўваскрэсьне,*
*А з Ею на Краю Радным*
*Заместа сьлёз—хай льюцца песьні...*
*Хай сум, куда пакінуць нас,*
*Як гэны сьнег зямлю вясною,*
*Жыцьцё-ж крынічнаю вадою*
*Хай забульбоча сярод нас.*
*Хрыстос Уваскрос! Званы зьвіняць,*
*А гук іх радасны—вясёлы*
*Як-бы нас кліча: „Годзі спаць!*
*Паўстаньце да жыцьця да волі!"*
*Браты, ўстаём! Хай з гэтым днём*
*Наш дух акрэпне, змагутнее,*
*Хай мары зьменяцца ў падзеі,*
*Хай знае сьвет, што мы жывём!*

*В.*

## Вялікдзень.

З усіх сьвятаў у гаду Вялікдзень ці дзень Уваскрасеньня Хрыста зьяўляецца найвялікшым.

Гэта «Празьнікаў Празьнік і Таржаство з Таржэств», — як пяецца ў вялікадняых царкоўных песьнях. Бо калі-б ня ўваскрос Хрыстос, дык ня было-бы і іншых хрысьціянскіх сьвятаў, зьвязаных з зойсьцем на зямлю Сына Божага. Калі-б ня збылося гэтае цуда з цудаў, дык ніхто ня ўверыў бы ў Яго Бажаство.

Дзеля гэтага ўсе хрысьціянскія народы ў гэты сьветлы дзень вітаюць адзін другога з славамі „Хрыстос Уваскрос!", бо ў Васкрасеньні Хрыста схавана векавая тайна перамогі Жыцьця над сьмерцяй, Дабра над злом, Праўды над маною і Сьвета над цемраю.

Усе радасна вітаюць адзін другога з гэтаю ўрачыстасьцю, дзеля якой Сын Божы зыйшоў з неба на зямлю, каб сваімі мукамі збавіць народ ад першароднага

граху і даць прыклад праведнага жыцьця, адчыняючага дзьверы для векавой лепшай будучыні на тым сьвеце.

Але каб заслужыць на гэта, трэба споўніць Запаведзі Хрыста, трэба ісьці ў гэтым жыцьці па таму цярністаму шляху, які Ён накрэсьліў у сваім вучэньні Трэба шчыра верыць у Бога і любіць свайго блізкага, нават ворага, як самога сябе.

Цяпер сярод нас развялося шмат няверуючых, якія вучаць, што няма на сьвеце ні Бога, ні тагасьветнага жыцьця.

Камуністыя заместа хрысьціянства прапаведуюць вучэньне сацыялізму, заместа Сьвятога Евангэлія — «Капітал» Маркса. Яны хочуць стварыць агульнае шчасьце на вучэньні грубага матерыялізму, хочуць стварыць рай на зямле. Яны вучаць, што «рэлігія — гэта вопіюм, які ўсыпляе народ». Дзеля гэтага ўсе рэлігіі імі перасьледуюцца. Царквы, касьцёлы, сінагогі і мечэці паганяцца бязбожнікамі — камуністамі. З цэркваў робяць кіны. Абразы і сьвяшчэнныя кнігі нішчацца.

Але мы бачым, да чаго давяло Расею і расейскі народ гэтае вучэньне матэрыялістаў — бязбожнікаў. Мы бачым, як у камуністычным зямным «раю» з кожным днём расьце і мацнее сярод народа вера ў Бога. Яшчэ ніколі царквы ня былі гэтак перапоўняны молячыміся, як цяпер пры бальшавіках, ня гледзячы на перасьледаваньне рэлігіі і духавенства.

Дык у гэты сьветлы дзень мы павінны думкаю злучыцца з нашымі братамі па той бок чырвонага кардону, якія пазбпаўляны свабоды сумленьня і ў супольных малітвах да Хрыста прасіць, каб і для нас, Беларусаў, наступіла запраўднае сьвята Нацыянальнага Уваскрасеньня, якім іншыя народы ўжо даўно карыстаюцца. Каб і над нашаю шматпакутнаю зямелькаю зазіяла сонца Праўды і Любові.

Нажаль, яшчэ шмат сярод нас ёсьць духовае цемры, узаемнае ненавісьці і няверра. І пакуль мы ня зьлечымся ад гэтае духовае хваробы, пакуль не перамožам у сабе сваіх духовых вадаў, гэтае сьвята ня будзе для нас тым вогняным слупам, які ўказваў жыдам дарогу з Эгіпецкае няволі.

Нават у тым факце, што мы сьвяткуем гэтае сьвята пазьней за усіх вольных заходніх народаў, быццам хаваецца сымболь таго, што для нас не наступіла яшчэ пара Уваскрасеньня; што мы, падобна тым нядбалым евангэльскім дзевам, спазьніўшымся спаткаць жаніха, не гатовы яшчэ для баляваньня.

Дык няхай-жа сяньняшні дзень Вялікадня будзе для нас ня днём пьянства і фізычнага раскашаваньня, а днём разважаньня над вучэньнем Хрыста, прынёсшага сябе ў ахвяру за нас, разважаньня над нашым будучым лёсам! І будзем з вераю ў Бога надзеяцца, што і для нас наступіць запраўднае сьвята Уваскрасеньня.

# Сьвяткаваньне Вялікадня рознымі народамі.

Пасха ці Вялікдзень належыў да самых даўніх і вялікіх жыдоўскіх сьвятаў. Яно сьвяткавалася ў памяць вызваленьня жыдоў з эгіпецкай няволі. Гэтае сьвята было вядома яшчэ да жыдоў, у старадаўніх Эгіпцян і Вавілонянаў, як сьвята „Вясны", прычым тады ў гэты дзень маліліся за ўраджай і жывёлу.

Першыя хрысьціяне сьвяткавалі Вялікдзень разам з жыдоўскаю „Пасхаю" і толькі на Першым Нікейскім Саборы ў 325 г. быў устаноўлены цяперашні тэрмін.

Ахвяраю для паганскай Астары (багіні вясны) ў гэрманскіх і англа-саксонскіх народаў былі заяц і яйко: першы — як сымболь пладавітасьці, а другое, — як сымболь абуджаючайся прыроды. Адсюль гэтыя два разуменьні мелі заўсёды цесную сувязь з сьвяткаваньнем Вялікадня у гэрманскіх народаў, а ад іх затым перайшлі і да іншых народаў.

У Нямеччыне, Аўстрыі і Швайцарыі вялікаднёвыя яйкі адыгрываюць паважную ролю ў народных звычаях і забавах. Там урачыста сьвецяцца разам з яйкамі вада і агонь, якім прыпісываецца шмат цудоўнага. У сярэдніх вякох быў звычай прадстаўляць у касьцёлах сцэны з Мук Хрыста. Да цяперашняга часу гэты звычай сахраніўся толькі ў Аберамэргаў у Верхняй Баварыі. У рэшце звычаяў сьвяткаваньне Вялікадня ў Гэрманскіх народаў нічым ня рожніцца ад сьвяткаваньня ў нас.

У Англіі, асабліва ў местах, Вялікдзень не сьвяткуецца вельмі ўрачыста. Традыцыйнае яйко ўжываецца толькі як шакаладнае ці дзеравяннае у відзе пудэлкаў з рознымі ўнутры падарункамі. Затым англічане любяць сьвятачны час правадзіць на сьвежым паветры і масамі выяжджаюць з гарадоў на правінцыю ці на марскі бераг.

Гэтак сама прыблізна сьвяткуецца Вялікдзень і ва Францыі. Затое надта ўрачыста сьвяткуецца Вялікдзень у Гішпаніі. Там ужо з Вербнага тыдня распачынаюцца рэлігійныя цэрэмоніі. У працягу ўсяго страстнага тыдня пануе траур. Вулічны рух, гандаль заміраюць. У вялікі чацьвер сама каралева выконвае абрад умываньня ног. Самыя урачыстыя улічныя працэсіі адбываюцца ў Вялікую пятніцу. У іх прыймаюць удзел усе цэхі і корпорацыі, з якіх найбольш папулярная-корпорацыя вырабкі цыгараў, да якой належыць сам кароль.

У Грэцыі сьвяткуюць гэтак сама, як у Расеі. У першыя дні на вуліцах наступае весёлы сьвятачны настрой, які выражаецца у народных забавах і скоках. На вёсках рэжуць ягнят і іх крывёю мажуць дзьверы ў дамох.

У Румыніі ёсьць добры звычай на Вялікдзень адведываць панямі з багатых сфэраў турмы і дарыць вязьням сьвятачныя падарункі. Вясковая моладзь праводзіць сьвята на сенажацях у скоках і забавах з яйкамі.

Вельмі ўрачыста абходзіцца сьвята Вялікадня ў Ерусаліме, у якім прыймаюць удзел багамольцы з усяго хрысьціянскага сьвету. Адбываецца ўрачыстая працэсія ад Галгофы да Гроба Гасподняга. Апрача ўрачыстасьці ў Вербную нядзелю і ўмываньня ног у Вялікі чацьвер 12 эпіскапам грэцкім патрыархам, адбываецца яшчэ запальваньне патрыархам факелу агнём з сьв. Гробу. Затым спэцыяльны пасланец нясе гэты факел да Віфліему. На дарозе ўсе багамольцы чакаюць яго гадзінамі, каб запаліць ад гэтага факелу сьвечку і гэткім чынам дасягнуць мэты сваей падарожы да Сьвятых Мейсц.

Сьвяткаваньне Вялікадня славянскімі народамі, як расейцамі і палякамі, адзначаецца галоўным чынам ад іншых Заходніх народаў іх гасьціннасьцю і багацьцем страў. Даўней у Польшчы сьвянцоны стол складаўся з некалькіх страў, кожная з якіх што-небудзь сымбалізавала. Неабходнымі стравамі былі — яйка, булка, кілбаса, галава дзіка, бараніна, хрэн, хлеб, соль і жбан мёду. Усё гэта было аздоблена зяленьню.

Цяпер мёд заменіўся гарэлкаю, віном і півам. І толькі мёд не заўсёды ставіцца на стол. А рэшта ўсё засталося і толькі шмат чаго дабавілася: шынка, цяляціна, парасё, гусь, індык, розныя бабкі, мазуркі, торты і інш., у залежнасьці, зразумела, ад дастатку гаспадара.

Пасьля апошняга набажэнства ў Вялікую суботу ўсе сьпяшаюць на сьвянцонае. У некатарых мясцох, як у Серадзкім, гаспадары і парабкі нясуцца на выпярадкі да дому, бо ёсьць звычай, што хто першым прыедзе да дому і спрабуе сьвянцонага, той у гэтым годзе першым кончыць жніва.

Затым за сьвянцоным сталом усе павінны стаяць, калі хочуць унікнуць хваробаў і нящчасьця. Яда распачынаецца яйком, парэзаным на кавалкі. У латышоў яйка рэжацца па ліку асобаў у хаце. У Мазырскім павеце пры дзяленьні яйка гаворыцца: „Дай нам Божа за год дачакацца чырвонага яйка ў здароўі і шчасьці!".

У Ўсх. Галіцыі на Стрыі ёсьць звычай даваць усей жывёле крошкі ад сьвянцонага, каб „Хрыстос помніў аб жывёле сяляніна".

Рэшткам і крошкам ад сьвянцонага прыпісваюцца розныя містычныя і лекарскія асаблівасьці. Гэтак косьці, а ў Серадзкім нават першы кавалак усякай стравы даецца сабакам і катам, каб ахаваць іх ад шаленства, ці закапваюцца на межах і сярод поля, каб абараніць пасевы ад буры, града, мышэй і кратоў.

## Вясна.

Вясна чароўная,
Вясна ірдзістая-
Прышла красуняю,
Прышла квяцістаю...

І шчырай ласкаю
Душу сагрэла нам,
Цудоўнай казкаю,
Жыцьцем павеяла.

Уладарнай сілаю
Пад гімн жыцьця сьвяты
Старонку мілую
Прыбрала ў зелень ты.

Як песьня звонкая-
Аккорды гучных струн,
Панад старонкаю
Плыве твой гоман, шум.

У гаёчку птушкаю
Сьвяргоча вольнаю,
Плыве над нівамі
У даль лязурную.

Вітай вясну, мая
Старонка мілая,
Ідзі да лепшых дзён
Ты з новай сілаю..-

**М. Васілёк.**

# СЬВЯТАЯ ЗЯМЛЯ.

Палестына, займаючая палуднёную частку Сырыйскага ўзгорка, па сярэдзіне якога працякае р. Іярдань, цяпер знаходзіцца пад пратэктаратам Англіі і вызначана для жыдоўскай колёнізацыі. Наагул Палестына ня адзначаецца такой пладавітасьцю, як апавядалі жыдоўскія біблійныя хадакі, што быццам „там плывуць рэкі з мёду і малака". Мала лесу, расьлінаў і вады. Летам, дзе німа штучнага абваднення, вытвараецца пустыня. Толькі ураджайнейшая крыху Самарыя (паўночная частка) дый даліна Іярдану, якая і была асродкам жыдоўскага каралеўства.

Самая багатая—Галілея. Тут ёсьць вада, горы пакрыты расьлінаю, а даліны пасевамі.

У біблійныя часы Палестына прадукавала збожжа, аліўкі і віно. Цяпер акрамя гэтага яшчэ растуць апэльсіны, кіпарысы, дубы, кактусы, хлопак, і інш.

Інтэнсыўная жыдоўская колёнізацыя пры значнай грашовай запамозе амэрыканскіх мільянэраў — жыдоў значна падняла гаспадарчы ровень Палестыны. Але край гэты малы для таго, каб пры значным магамэтанскім насельніцтве прыняць шмат іміграантаў.

Абшар Палестыны займае 23,000 квадр. кілямэтраў з 757,000 насельніцтва, з якога больш 500,000 складаецца з туркменаў (на паўночы) і арабаў качаўнікоў (на палудні). Пануючая рэлігія магамэтанская (іслам) і мова-арабская.

Дзеля таго, што пасьля вайны, калі Палестына была аддадзена Лігаю Народаў пад пратэктарат Англіі, якая вельмі спрыяе жыдам і падтрымлівае эміграцыю, адносіны між жыдамі і арабамі значна пагоршалі. Часта даходзіць да жыдоўскіх пагромаў і разьні. А калі два гады таму назад да Палестыны прыехаў Высокі камісар лёрд Бальфур (жыд), дык арабы занялі гэткую варожую пазыцыю, што ён ледзь выехаў жывым пад аховаю ангельскай кавалерыі, танкаў і аэрапланаў. Да гэткага стопня абурана на жыдоў і англічан арабскае насельніцтва, у якога адбіраюць зямлю пад жыдоўскую колёнізацыю.

З вялікшых гарадоў Ерусалім налічвае 64,000 жыхароў, Яффа — 48,000, новы жыдоўскі горад Тэль-Авіў — 37,000, Гайфа — 25 000, Газа — 17,000, Гэбронь — 17,000, Наблюс — 16,000 і Сафед — 8,000.

Ерусалім лічыцца гістарычным сьвяшчэным горадам як для хрысьціян, гэтак сама для жыдоў і магамэтан. Ляжыць на высокай плашчыні, абмяжаванай з двух бакоў глыбокімі далінамі двух патокаў, а з трэцяга мураванай сьцяною, якая захавалася да гэтай пары. Дзеля гэтага некалі Давід перанёс сюды сваю сталіцу з Гэброну. Да гэтага часу ўхавалася шмат гістарычных памяткаў з жыцьця Хрыста, дзеля гэтага кожны год адведвае горад сотні тысячаў багамольцаў з усяго хрысьціянскага сьвету.

Недалёка ад Ерусаліму за далінаю Кедронь узвышаецца Аліўкавая гара, у падножжа якой знаходзіцца гістарычны Гэўсіманскі сад. У даліні Кедроня ёсьць шмат гістарычных дамавінаў. Тут знаходзіцца дамавіна Сьв. Маткі Ісуса Хрыста, Якава, Захарыя. Па шляху да Віфліема знаходзіцца дамавіна Рахілі, якая шануецца аднальков як хрысьціянамі, гэтак сама жыдамі і магамэтанамі.

На Паўдзён ад Ерусаліму ляжыць места Віфліем (дзе радзіўся Хрыстос) і Гэброн, даўняя сталіца Давіда. На ўсход ад Ерусаліма —

# ВАЛАЧОБНІКІ.

(Успаміны з дзяцінных гадоў).

Быў вечар першага дня Вялікадня Ужо мы амаль што спалі, пад'еўшы, як трэба ўсялякіх смачных страў і прыпраў. Душой і целам адчувалі вялікае і вясёлае сьвята.

Татка пачаў храпець на ўсю хату, а бабулька патроху стагнала.

Раптам за вакном нехта трымкнуў наладжваючы скрыпку. Саскочыў я з ложку дый ціха да вакна падпоўз... з-за вушака гляджу...

Некалькі чалавек асьцярожна рыхталіся няма ведама да чаго...

Страх мяне агарнуў:

— Ці не разбойнікі? Мала, што яны за скрыпкай...

Разбудзіў я татку.

— За вакном нейкія людзі! Татка! Можа вакно высадзіць зьбіраюцца? Устаньце!.. увесь дрыжучы шаптаў я.

Ен скончыў храпець... і запытаўся:

— Хто? Што? Каму там? Чаго?—і ўзноў заснуў...

А за вакном пачулася кашляніна з некалькіх грудзей. Скрыпка запішчэла... Спачатку нясьмела, потым быццам набраўшы атвагі заліласся прыгожымі тонамі.

— Татка, устаньце! баюся!—тузгаючы татку енчыў я.

— Што? Хто цябе? Чаго...

Ён прыслухаўся да скрыпкі.

За вакном запяялі:

«Хрыстос Васкрос, Сын Божы».

Татка падышоў да вакна, угледзіўся і... вясёлы вярнуўся назад, ды пачаў будзіць маму.

цягнецца пустыня Юды, а вышэй на паўноч ляжыць Ярыхон, сьцены якога некалі ўпалі ад голасу ізраільскіх трубаў. Горад гэты цяпер значна ўпаў і налічвае ня больш 300 жыхароў.

Пад возярам Гэнісарэцкім паважнейшымі мейсцамі зьяўляюцца Тыбэрыя і Капэрнаўм, дзе Хрыстос здабыў першых сваіх вучняў і дзе жыў у доме Пятра.

Аднак найпаважнейшым горадам Галілеі зьяўляецца Назарет з майстроўняю Сьв. Язэпа. Тут было Дабравешчаньне Маткі Божай і ёсьць студня з якой яна брала ваду. І цяпер яшчэ шмат багамолак—дзяўчат прыходзіць да гэтай студні, каб узяць з сабою вады.

Іншыя вядомыя з бібліі гарады прадстаўляюць цяпер толькі зьбяднеўшыя малыя вёскі

# Вялікоднае яйко.

Яйко, як сымболь схаванай магутнасьці жыцьця, мела заўсёды вялікі ўплыў на разуменьне ўсіх народаў. У брытанскім музэі ў Лёндане ёсьць надта цікавы індыйскі абраз стварэньня сьвета. Тварэц мае перад сабою разьбітае з боку яйка, у якім відаць жывучыя істоты. На адлупленай шкарлупе гэтага яйка стаіць толькі што створаны чалавек, зьмешчаны між пачаткам *дабра* і *блага*, між соўнечным бажаством з аднага боку і д'яблам з другога. Індыйскі д'ябал у аблічу чалавека з рагамі намаляваны гэтак сама на кавалку шкарлупы ад яйка.

Адсюль магчыма шляхам легэнды паўстаў у сярэднія вякі звычай зьяданьня шкарлупы вялікаднявага яйка, як сьродак проці чараў ведзьмароў, бо на шкарлупе вялікаднявага яйка чорныя магі крэсьлілі сымбалічныя лініі з мэтаю зашкодзіць сваім блізкім.

Звычай агульнага спажываньня яек на сьвята ў часе зраўнаньня дня з ноччу спаткаем і ў сярэднявечнай Вэнэцыі. Па разуменьню вэнэцыян ноч—пачатак усіх рэчаў—апладатварыла яйко, з якога выйшаў людзкі род. І калі сонца перамагло доўгую ноч, дык разьбівалі яйка ў знак таго, што людзкі род ажыў. Гэта было пачаткам пазьнейшай містэрыі *Уваскрасеньня.*

Звычай дараваньня яек паходзіць з Усходу, дзе яны адыгрываюць вельмі паважную ролю ў сымбалічных абрадах. На Усходзе ёсьць звычай раздаваньня яек на Новы год, які саўпадае з зраўненьнем дня з ноччу. У Пэрсыі да гэтай пары гэты звычай падтрымліваецца. Там дораць яйкі каштоўныя, залатыя з сымбалічным малюнкамі.

Гэтак сама і ў старадаўнім Рыме падавалі яйка перад пачаткам частаваньня. Адсюль пайшла прыказка: *ад яйка аж да яблыка,* ад пачатка да канца.

Вялікоднае яйко, як сымболь пачатку ўсіх пачаткаў—аднаўленьня жыцьця, сымболь уваскрасаючай з вясною кожнага года прыроды, уваскрасеньня чалавека фігуруе ўва ўсіх рэлігіях. Звычай дараваньня маляваных яек, як бачым, мае даўнія традыцыі. У некатарых краях вялікаднявыя яйкі, як падарункі, бываюць вельмі дорага аздобляны. Часта робяць яйкі з золата, сярабра, аздабляюць каштоўнымі каменьнямі і г. д.

---

— Прануся, а Прануся! Валачобнікі прыйшлі.

— Дзе, хто? Валачобнікі? — пыталася тая праціраючы заспаныя вочы.

— За вакном, ці-ж ня чуеш?

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Абодвы яны пасьпешна ў цемнаце шумелі вопраткамі. Меліся відочна паліць лямпу, дык апраналіся, каб ня было стыдна.

За вакном зьвінела скрыпка і—то галасіла, як той віхор, калі ўдарыцца аб тэлеграфныя драты, то неяк радасна квіляла, нібы нязвычайнаю чуласьцю была поўна.

Падхопнічкі з усіх грудзей па кожным куплеце прыпейвалі «Хрыстос Васкрос, Сын Божы», або «зялёны сад вішнёвы».

Татка запаліў лямпу і адчыніўшы дзьверы запрасіў валачобнікаў у хату.

Мамка была здаволеная з гэтага «амбарасу», але, дзеля прылікі, штурханула разы два ў бок татку, кажучы ні-то сьмехам, ні-то запраўды.

— Ну і дзеля чаго гэта васпан мяне ўстуравіў?

Абодвы сьмяяліся.

Мама зьняла паперу, якой было накрыта «сьвянцонае». На стале адкрыўся «від» на багата прыладжаную ядоміну і прысмакі; татка з прыскрынку дастаў бутэльку гарэлкі.

Тымчасам валачобнікі паселі дзе каторы.

Маленькі худзенькі чалавек са скрыпкай сеў на куту. Абапал яго па двох «падхопнічкі», а механошы, страшэнна худы і высокі, зьняў з плечаў вялікую торбу і тады толькі сеў за стол.

# Палітычная хроніка.

ПОЛЬШЧА.

## Падарожа мін. Залескага ў Італію.

6 красавіка мін. загр. спр. п. Залескі выехаў у Італію. На запытаньне аднаго з прадстаўнікаў прэсы аб мэце сваей падарожы, міністар адказаў: „Перш-наперш адпачынак, а затым спатканьне з італьянскім прэм'ерам Мусоліні.. Кожныя тры месяцы, падчас жэнэўскіх паседжаньняў Рады Лігі, спатыкаюся з кіраўнікамі заграгічных справаў усіх дзяржаваў і ня маю выпадку пабачыць італьянскага прэм'ера, які кіруе некалькімі міністэрствамі і дзеля гэтага ня можа пакінуць Рыму. Я ўжо даўно меў намер спаткацца з Мусоліні, што некаторыя з маіх калегаў ужо зрабілі раней мяне".

ЗАГРАНІЦАЮ.

## Няўдалы замах на Мусаліні.

У Мілані ў часе адчыненьня міланскага кірмашу здарыўся выбух пякельнай машыны, у выніку якога было замардавана 16 чалавек і ранена 40. Пякельная машына з гадзіньнікавым мэханізмам, зьмешчаная ў ліхтарным слупе, была вызначана для Мусаліні, які на шчасьце прыбыў на адчыненьне кірмашу на некалькі мінут пазьней і дзякуючы гэтаму ўнік сьмерці. Праграма ўрачыстасьці з гэтае прычыны не зьмянілася.

## Барацьба між Чычэрыным і Менжынскім.

У Маскве з вялікім зацікаўленьнем чакаюць вынікаў барацьбы, якая, у працягу некалькіх тыдняў, вядзецца між Чычэрыным і начальнікам Г. П. У. (Чэка) Менжынскім. Нядаўна Чычэрын, нездаволяны падтрыманьнем Менжынскага большасьцю сябраў „Політбюро", падаў просьбу аб дымісіі. Але ў апошні час Сталін выступіў у абарону Чычэрына і гэта зусім зьмяніла сытуацыю. Цяпер ужо гавораць, што Чычэрын возьме назад просьбу аб дымісіі і, што Менжынскі прымушаны будзе ўступіць са свайго становішча.

## Фантастычная вестка аб бальшавіцкіх ваенных плянах.

Парыская часопісь „Рах" зьмяшчае сэнсацыйную вестку аб пагражаючым нібыта збройным выступленьні радавай Расеі проці Латвіі і Бэсарабіі. Першаю быццам будзе атакавана Латвія, проці якой ужо зроблены ўсе рыхтаваньні. Плян нападу на Бэсарабію яшчэ не апрацаваны. Паводле інфармацыяў з пэўных крыніцаў бальшавікі быццам рыхтуюцца да захопу Балтыцкага пабярэжжа з Рыгаю і ўзнаўленьня ваеннай аперацыі проці Польшчы.

## Бальшавіцкі гвалт.

Нядаўна агенты Г. П. У. арыштавалі некалькі палякаў, сярод якіх ёсьць 7 ксяндзоў. Робіцца гэта дзеля таго, каб стварыць запас арыштаваных палякаў з мэтаю абмяніць іх на асуджаных грамадаўцаў.

## Гніцьцё трупа Леніна.

З Масквы паведамляюць, што спэцыяльная камісія нядаўна дасьледавала труну Леніна і знайшла, што забальзамаваны труп Леніна

---

Пакуль татка наліваў гарэлку ў чаркі, запевала са скрыпкай пачаў пяяць:

«Дзень добры таму,
Хто ў гэтым даму..

Іншыя падхапілі вясёла: «Хрыстос Васкрос Сын Божы».

«Гаспадарочак,
«добры паночак...»

Падхопнічкі пяялі «Зялёны сад вішнёвы».

Татка ня даў далей пяяць.

— Да мяне ня трэба, дзякую... Во калі жонцы сьпяіцё, дык... ляпей...

Не вядома, як і калі, але я апынуўся ля самае скрыпкі — яна галасіста зьвінела, а запевала пяяў да мамкі:

«Гаспадынячка
«Журавіначка!
«Ці сьпіш, ці ляжыш,
«Ці спачываеш?
«А калі-ж ты сьпіш, дык Бог з табою...
«Ну калі ня сьпіш — гукай са мною!

«Вазьмі ліхтарок
«Ідзі ў хлявок!
«А ў тваім хляўку дый прыявачка...
«Дый прыявачка прыявілася:
«Колькі каровак ацялілася»!

. . . . . . . . . . . . .

На астатку па добрай выпіўцы запялі:

«Памасьці кладку
«Пазаві ў хатку.
«Стаўляй гарэлку,
«Сыр на талерку
«Ды парай кілбас
«Пачастуй-жа нас».

Яшчэ хлібнулі гарэлкі раз, другі... ахвотна закусвалі.

гніе. Усё цела пажаўцела, а твар зусім згніў і страціў сваю форму. У зьвязку з гэтым у камуністычных колах паўстаў праэкт спаліць труп Леніна і попял зьмясьціць у цяперашнім маўзалеі.

### Барацьба з рэлігіяй у С. С. Р. Р.

„Савецкая Беларусь" (№ 76) зьмяшчае пад назваю „Камсамол у барацьбе з рэлігійнай цемрай„ наступную дэпешу з Масквы:

„У зьвязку з пабліжэньнем царкоўнага сьвята Вялікадня, Ц. К. Усе Л. К. С. М. прапануе ўсім мясцовым арганізацыям узмоцніць антырэлігійную і антывялікодную працу. Кампанія, аднак, не павінна разгортвацца пад лёзунгам „камсамольскага вялікодня", каб не стварыць уяўленьня сярод мас рабочых і рабочае моладзі, што камсамол хоча ўстанавіць нейкі асаблівы савецкі вялікдзень. У буйных гарадох пажадана арганізаваць уночы пад Вялікдзень маскарады, фэйервэркі, бэнгальскія агні і г. д."

### Вялікі Чацьвер у Мадрыдзе.

У Мадрыдзе адбылася вялікая царкоўная ўрачыстасьць умываньня ног. Працэсыя прайшла праз каралеўскі палац, пасьля чаго, у прысутнасьці сяброў каралеўскай сям'і, ураду і дыпляматычнага корпусу, кароль і каралева ўмылі ногі 12 жабракам і 12 жабрачкам.

## Тутэйшая хроніка.

— **Гэнэральны агляд коняў у Вільні.** На падставе загаду Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай ад 8.II. 1927 г. аб абавязкавай ўступцы цяглавай жывёлы, вазоў, аўтамабіляў, вэлосыпэдаў і г. д. для мэтаў абароны Дзяржавы, Міністар Унутраных Спраў у згодзе з Міністрам Ральніцтва загадалі па цэлай тэрыторыі Дзяржавы агляд коняў, радзіўшыхся ў 1924 г. і старэйшых.

Агляд коняў распачнецца ў Вільні 16 красавіка на Сьніпіскім конскім рынку і ў гэты час будуць выданы на ўсіх агледжаных коняў засьведчаньні.

Асобы ўхіляючыяся ад дастаўкі коняў, будуць караццa штрафам у разьмеры вартасьці каня ці арыштам да 6 месяцаў.

— **Пасольскі клюб „Змаганьня за інтарэсы сялян і работнікаў".** Беларускія паслы, атрымаўшыя мандаты па сьпіску № 39 у Назаградзкай акрузе, утварылі асобны пасольскі клюб пад назв. „Змаганьне за інтарэсы сялян і работнікаў". У склад клюбу ўваходзяць паслы: Язэп Гаўрылік — старшыня, д-р Ігнат Дварчанін — віцэ-старшыня, Янка Грэцкі, (атрымаў мандат па сьпіску „Сельроб-лявіца" ў Берасьцейскай акрузе) — сэкратар і Стагановіч Аляксяндар — скарбнік. Новы клюб мае ўвайсьці ў цесную сувязь, а як падаюць польскія газэты нават злучыцца з украінскім клюбам „Сельроб-лявіца". Канцэлярыя клюбу часова месьціцца ў Вільні на Віленскай вул. № 12 кв. 6.

— **Беларускі Пасольскі Клюб.** Беларускія паслы атрымаўшыя мандаты па сьпіску № 18 — Блёку Нацыянальных Меншасьцяў — утварылі ў Сойме клюб, у склад якога ўваходзяць: паслы Яреміч, Каруза, Стэповіч, Юхневіч і сэнатары Багдановіч і Рагуля. У прэзыдыум клюбу выбраны: Ф. Ярэміч — старшынёй, В. Багдановіч — віцэ-старшынёй і П. Каруза сэкратаром.

---

Падправіўшыся захацелі скончыць сьпевы. Паўставалі з-за столу і запялі:

«Пачынальнічку хоць капу яец,<br>«Хоць капу яец, кілбасы канец,<br>«А падхопнічкам хоць па дзесятку...<br>«Дай Божачка Вам быць у дастатку.<br>«Механошаму, хоць пару злотых,<br>«Хоць пару злотых яму на боты».

Пачуўшы гэткія напаміnаньні, мамка ня скупілася... Механошы хаваў усё у сваю торбу і сам хіляўся ў бакі.

Быў час ужо адхадзіць ім. Падзякавалі, сыгралі на адходзіны нешта вясёласкочнае і разьвітаўшыся вышлі.

Татка правёў валачобнікаў аж за браму. Пасьля пазасуваўшы і пазашчапіўшы сені і хату сьмяючыся пытаўся нас:

— А што? Ці падабаюцца вам валачобнікі?

Я быў задаволены, мамка-таксама. У нас зьявіўся смак да яды; селі мы ўтраіх ды патроху пробавалі таго ды гэтага.

А валачобнікі! Яны вышаўшы ад нас ізноў «гарланілі» пад суседнюю хатаю ў помач скрыпцы

«Валачобнічкі<br>«Валачыліся,<br>«Па самыя вушы<br>«Абмачыліся!..

Рэха, ня маючы прасторнасьці, стукалася аб дамы, потым аб сябе і толькі, як валачобнікі выйшлі да ракі на вольнае мейсца, рэха пакацілася аж на «ксяндзоўскі востраў» ды адгукнулася з высокага магільніку.

**Х.—Ант.**

**— Стараньні пасла Станкевіча скасаваць выбары ў Наваградзкім, Віленскім і Беластоцкім ваяводзтвах.** Як надае польская прэсса бы ўш. выбарчы камітэт беларускіх сялян і работнікаў (Янкі Станкевіча) пачаў зьбіраць сялянскія подпісы пад просьбай аб скасаваньні выбараў у Віленскай, Наваградзкай і Беластоцкай акрузе. Сам Я. Станкевіч атрымаў мандат у Лідзкай акрузе.

**— Пасьля выбараў.** „Нашая Бацькаўшчына" — орган пасла Я. Станкевіча ня будзе больш выхадзіць, а „Народ" ў красавіку выйдзе два разы, а з мая ізноў зробіцца тыднёвікам.

**— Частковая беларусізацыя праваслаўнай духоўнай сэмінарыі у Вільні.** З пачаткам будучага вучэбнага году беларуская мова ў сэмінарыі будзе мець 20 гадз. у тыдзень (замест 16 сёлетніх). Выкладаць беларускую мову замест пасла Я. Станкевіча будзе гр. Вінц. Грышкевіч.

Пытаньне аб увядзеньні ў сэмінарыю беларускае мовы, як выкаадовае, да гэтага часу яшчэ ня вырашана вышэйшай асьветнай уладай.

**— Агульны сход Беларускага Каапэратыўнага Банку ў Вільні.** 2 красавіка адбыўся ў прысутнасьці рэвідэнта „Rady Spółdzielczej" агульны сход Беларускага Каапэратыўнага Банку ў Вільні. Пасьля прыняцьця да ведама справаздачы Ўправы і Нагляднае Рады Банку былі давыбраны сябры Нагляднае Рады: гр. гр. Пяткевіч і Кепель і заступнікі: гр. гр. Грышкевіч, Марцінчык і Міхалевіч.

**— Устрыманьня эміграцыі да Канады.** Па загаду ўладаў эміграцыя да Канады затрымана дзеля таго, што вызначаная квота ў 10,000 асобаў ужо вычарпана.

**— Беларуская кнігарня ў Горадні.** У Горадні адчынена Беларуская кнігарня, якая месьціцца на Мяшчанскай вул. № 9. Кіраўнікамі кнігарні з'яўляюцца грам. П. Кізевіч і Н. Ламашэвічанка.

**— Новыя беларускія кніжкі.**

*Якуб Колас.* „Новая Зямля" — поэма цана з перасылкаю 2 зл. 15 гр.

*М. Манцэвіч.* „Як залажыць спажывецкі каапэратыў" цана 10 гр.

*„Заранка"* ілюстраваная часопіс для дзяцей № 1—2 за 1928 г., цана 40 гр.

*„Заранка"* камплект за 1927 год (9 кніжак), цана 2 зл.

## Навука і тэхніка.

### Пад вадою, па вадзе, па зямлі і ў паветры.

Амэрыканскі вынаходца Дарстон працуе над мадэльлю апарату, які павінен будзе лётаць у паветры, хадзіць па вадзе, пад вадою і па зямлі. Перш за ўсё Дарстон да корпусу маленькай падводнай лодкі прырабіў колы для выхаду з вады на бераг. Зараз ён працуе над тым, каб прырабіць да мадэлі крыльля, якія мелі-б патрэбную падлётную сілу і маглі-бы складацца. Апарат павінен мець 6 матораў: 2 электрычных дзеля язды пад вадой і 4 дзеля палётаў, язды па вадзе і па зямлі. У залежнасьці ад патрэбы, маторы пераключаюцца або на паветраныя прапэлэры, або на заднія хадавыя колы.

### Самы хуткі крэйсар.

Новы францускі крэйсар „Дюкэскэль" разьвіў на спробах хуткасьць у 70 кілямэтраў у гадзіну. Магутнасьць рухавікоў крэйсера 130,000 конскіх сіл. Гэта самы хуткі крэйсер у сьвеце.

## Кутох жартаў і сьмеху.

### Дзеля чаго?

— Дзеля чаго камуністыя вауседы ахвотна галасуюць да інстытуцыі насы хворых?

— Бо маюць пацяг да усялякага віду касау...

### Прычына.

Англічанін: — Якая галоуная прычына частых разводау у Амэрыцы?

Амэрыканец: — Жаніцьба.

### Разважны адказ.

Спатыкаюцца два заядлых ворагі на вузкім ходніку. Больш задзірысты ідзе проста і грозна заяуляе:

— Ня уступлю перад ідзіотам!

— А я уступлю—адказвае другі і сходзіць з ходніку.

### Адзіная пацеха.

Спачуваючая пані зьвяртаецца да пьяніцы на вуліцы, які трымае у руках бутэльку гарэлкі:

— Дык гэта бутэлька, якую трымаеш у руках, есьць адзіная панская пацеха у жыцьці?

— Не, маю яшчэ другую у кішані...

## Паштовая скрынка.

Клапа. Верш ня можа быць зьмешчаны, бо, як асабісты разрахунак, нікому не зразумелы, як напрыклад гэта:

Не кахайце вы „цяцеры",
А кахайце ўсе „цяслу",
Будзе дзякаваць бяз меры,
Дык каму? пэўне — „аслу"...

Безчаснаму: „Савецкі Рай" — ня пойдзе: тэма старая і усім вядомая. Прысылайце ляпей карэспандэнцыі з вясковага жыцьця, ці з жыцьця Гміннае Рады.

К. Давыдчыку 1 зл. 50 гр, Кс. К. М. Вішнеускаму 2 зл. адтрымалі — газэту высылаем.



Адказны Рэдактар—Выдавец Тодар Вернікоўскі
Белар. Друк. Ім. Фр. Скарыны. Вільня.